СПЕЦРЭПАРТАЖ

# Хуткая амерыканская дапамога



*Генерал Джозэф РОЛСТАН*

**Пры бальніцы хуткай дапамогі г. Гомеля днямі адкрыўся новы, сучасны цэнтр па пераліванню крыві. Цэнтр быў пабудаваны за кошт камандавання Узброеннымі Сіламі Злучаных Штатаў Амерыкі ў Еўропе (420 тысяч долараў інвестыцый), а таксама бюджэта Гомельскай вобласці (50 тысяч долараў).**

Павітаць адкрыццё Цэнтра па пераліванню крыві прыехаў у Гомель сам вярхоўны галоўнакамандуючы аб'яднанымі ўзброенымі сіламі НАТО ў Еўропе генерал Джозэф Ролстан. На ўрачыстай цырымоніі адкрыцця Цэнтра прысутнічалі пасол ЗША ў Беларусі Майкл Козак, галоўны ўрач Гомельскай бальніцы хуткай дапамогі Мікалай Кішко, шматлікія амерыканскія і беларускія вайскоўцы. НАТАўцаў было так шмат, што здавалася — прагнозы самага "дальнавіднага" ў Беларусі чалавека збыліся, і "агрэсіўны" паўночна-атлантычны альянс прарваўся-такі ў межы Беларусі.

Прыйшлі паслухаць на цырымонію амерыканцаў таксама і мясцовыя медыкі. Слухалі, апладзіравалі. Што ўразіла — не было ніводнага прадстаўніка ўладаў. Ніхто з гомельскай "вертыкалі" не прыйшоў сказаць простае шчырае "дзякуй" шчодрым амерыканцам. Дзіўная забыўчывасць! Сядзеў толькі ў ложы для гасцей з кіслым тварам міністр абароны Мальцаў. Пасядзеў, пасядзеў і з'ехаў — нікому з амерыканцаў нават рукі пры людзях не паціснуў, ды і журналістаў, шчыра кажучы, сваёй прысутнасцю не зацікавіў.

У сваёй прамове да гасцей генерал Ролстан абазначыў далейшыя планы НАТО на "захват" Гомеля ў будучым годзе — "пачаць рэканструкцыю аддзялення хуткай дапамогі гомельскай бальніцы, а таксама ажыццявіць рэканструкцыю абласнога раддома г. Гродна". Ролстан выказаў меркаванне, што "цяперашні праект НАТО адлюстроўвае веру амерыканцаў у тое, што дзеля агульнай карысці палітычныя рознагалоссі могуць пераадольвацца".

Пасол Козак падкрэсліў, што "пабудаваны цэнтр па пераліванню крыві — гэта выдатны прыклад таго, што адбываецца, калі беларусы і амерыканцы працуюць разам дзеля дасягнення высокіх мэтаў".

Не мог амерыканскі пасол не закрануць тэму выбараў. Майкл Козак: "На жаль, з лістапада 1996 года адносіны паміж Беларуссю і Злучанымі Штатамі нельга назваць нармальнымі... ЗША гатовы да нармалізацыі адносінаў з Беларуссю, калі беларускія ўлады будуць прытрымлівацца тых норм, якія Беларусь абавязалася выконваць у АБСЕ. Гэта азначае, што Злучаныя Штаты былі б гатовыя прыняць вынікі прэзідэнцкіх выбараў незалежна ад таго, хто стане пераможцам, калі гэты працэс, пачынаючы з сённяшняга дня, будзе праводзіцца ў адпаведнасці з гэтымі нормамі".

"Наша гуманітарная дапамога беларускім людзям, якую сімвалізуе адкрыццё Цэнтра пералівання крыві, будзе працягвацца незалежна ад адносінаў паміж нашымі ўрадамі. Але нашы магчымасці па аказанні дапамогі ў развіцці Беларусі па ўсіх накірунках будуць напрамую залежыць ад таго, наколькі добра ўлады змогуць выкарыстаць унікальную магчымасць, якую прадастаўляюць надыходзячыя выбары, каб прадэманстраваць выкананне Беларуссю сваіх міжнародных абавязацельстваў", — падкрэсліў амерыканскі дыпламат.

Дарэчы, пачынаючы з 1992 года амерыканскі ўрад прадаставіў Беларусі дапамогу на суму 561 мільён долараў ЗША, з іх больш за 170 мільёнаў — дапамога, перададзеная Міністэрствам абароны ЗША і прыватнымі ахвяравальнікамі. У яе ўваходзяць прадукты харчавання, медыцынскае абсталяванне, падрыхтоўчыя курсы для ўладальнікаў малога і сярэдняга бізнесу, стыпендыі для беларусаў, жадаючых вучыцца ў ЗША і г.д.

І што чуюць у адказ на сваю, безумоўна, заслугоўваючую публічнага прызнання дабрачыннасць з боку беларускіх улад, з экранаў Беларусскага тэлебачання амерыканцы? Тоны бруду, перманентная шпіёнаманія і... ні слова, ні паўслова простай чалавечай падзякі за дапамогу.

Напрыканцы ўрачыстай цырымоніі генерал Джозэф Ролстан спецыяльна запрасіў на прыватную размову аднаго з магчымых кандыдатаў у прэзідэнты, першага міністра абароны Паўла Казлоўскага, які таксама прысутнічаў у Гомелі. Гутарка, вядома, ішла пра выбары. Як пракаменціраваў "Народнай волі" Павел Казлоўскі пасля сустрэчы з Ролстанам, "амерыканскі бок крайне занепакоены сітуацыяй з выбарамі на Беларусі, шматлікімі парушэннямі заканадаўства, відавочным ціскам з боку ўлад".

Павел Казлоўскі: "З Ролстанам мы таксама гутарылі пра тое, якімі добрымі былі закладзеныя адносіны паміж Беларуссю і ЗША да лістапада 1996 года: Беларусь яўляла ўсяму свету разумную, ураўнаважаную пазіцыю, якую паважалі і з якой лічыліся. Знішчалася ядзерная зброя, выконваліся пагадненні па скарачэнні звычайных узбраенняў, наладжваліся сувязі Беларусі з НАТО, з Пентагонам і г.д. У заключэнне нашай сустрэчы я прадаставіў НАТОўскаму галоўнакамандуючаму свае гарантыі, што пасля перамогі дэмакратычнага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах Беларусь будзе зноў адкрыта ўсяму свету, зноў будзе шукаць у гэтым свеце не ворагаў, а сяброў".

Словы б Казлоўскага — ды Богу ў вушы!

**Алесь СІЛІЧ.**

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# Паслухайце мяне, Зянон Станіслававіч!

*Шаноўны галоўны рэдактар, прашу надрукаваць маё пісьмо да Зянона Станіслававіча Пазьняка. Яно прасякнута любоўю і занепакоенасцю за лёс Радзімы і яе лепшага сына.*

Шаноўны Зянон Станіслававіч, мая павага да Вас бясконцая. Я ўпэўнены, што прыйдзе той час, калі шыльды з Вашым іменем будуць замацоўвацца на будынках вуліц і плошчаў. Усё лепшае ў сучасным адраджэнцкім руху Бацькаўшчыны звязана з Вамі. Вы — гонар нашай нацыі, узор для выхавання моладзі. Не пабаюся сказаць: Вы — наш нацыянальны прарок.

У Вас — і Вы гэта ведаеце — многа ворагаў. Было іх шмат і ў Ісуса Хрыста, калі ён быў жывы. І Вы праносіце цяжкі крыж па гэтым жыцці. А Ваша жыццё для патрыётаў Беларусі вельмі і вельмі дарагое. Кожнае Ваша слова для нас вельмі патрэбнае. Мы, Вашы сучайчыннікі, а тым больш нашы нашчадкі, з вялікай удзячнасцю і захапленнем услухоўваемся і будзем услухоўвацца ў Ваш прарочы голас.

Менавіта таму прашу Вас: праігнаруйце гэтыя выбары. Вы задужа светлы, каб Вас разгледзелі і з Вамі прымірыліся чорныя сілы. Яны баяцца Вас і таму не спыняцца ні перад якімі фальсіфікацыямі, каб потым абсмяяць, маральна (калі не фізічна) знішчыць Вас у вачах большасці, якая пакуль — і гэта сумная рэальнасць — усё яшчэ не разумее Вас. Прыслухайцеся да маёй парады і даруйце, што не здолеў змаўчаць. Вы столькі паспелі зрабіць для Беларусі, што гэта ніколі не забудзецца ёю. Жывіце яшчэ сто год. І жыве Беларусь!

**З хрысціянскай шчырай любоўю да Вас, шаноўны Зянон Станіслававіч,**
**Уладзімір ЯКІМОВІЧ.**
**г.Маладзечна.**

РЭТРАСПЕКТЫВА

# Ці даў той рэферэндум падставу Лукашэнку прадоўжыць свае прэзідэнцкія паўнамоцтвы?

Паважаная рэдакцыя "Народнай волі"!

Надрукуйце, калі ласка, бюлетэнь рэферэндуму 1996 года. Хочацца пераканацца, так бы мовіць, з першакрыніцы ў тым, ці даў той рэферэндум падставу Лукашэнку прадоўжыць свае паўнамоцтвы на два гады без выбараў.

Сумненні ў гэтым у мяне яшчэ ад таго, што ў 1996 годзе Лукашэнка як прэзідэнт прысягі на новай Канстытуцыі не прымаў, а прысягаў толькі адзін раз — у 1994 годзе на Канстытуцыі з гербам "Пагоня" і пад бел-чырвона-белым сцягам.

**Міхаіл ЧЫЛЕК.**
**Лідскі раён.**

Ніжэй друкуем пытанні, якія былі ініцыіраваны прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам і выносіліся на рэферэндум у 1996 годзе.

**ПЫТАННІ, ЯКІЯ ІНІЦЫІРАВАНЫ ПРЭЗІДЭНТАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

1. Перанесці Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь (Дзень рэспублікі) на 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у Вялікай Айчыннай вайне.

**ЗА** ці **СУПРАЦЬ**

2. Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаванымі Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкам.

**ЗА** ці **СУПРАЦЬ**

3. Ці выступаеце Вы за свабодную, без абмежаванняў, куплю і продаж зямлі?

**ЗА** ці **СУПРАЦЬ**

4. Ці падтрымліваеце Вы адмену смяротнай кары ў Рэспубліцы Беларусь?

**ЗА** ці **СУПРАЦЬ**

**ПЫТАННІ, ЯКІЯ ІНІЦЫІРАВАНЫ ДЭПУТАТАМІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

5. Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі, прапанаванымі дэпутатамі фракцый камуністаў і аграрыяў.

**ЗА** ці **СУПРАЦЬ**

6. Ці выступаеце Вы за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады выбіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі?

**ЗА** ці **СУПРАЦЬ**

7. Ці згодны вы, што фінансаванне ўсіх галін улады павінна ажыццяўляцца галосна і толькі з дзяржаўнага бюджэту?

**ЗА** ці **СУПРАЦЬ**

Як бачым, пытання аб прадаўжэнні паўнамоцтваў прэзідэнта Лукашэнкі яшчэ на два гады ў бюлетэні не было. Да таго ж, згодна з рашэннем Канстытуцыйнага суда, рэферэндум меў не абавязковы, а толькі кансультатыўны характар. Да сказанага варта дадаць, што з-за шматлікіх парушэнняў заканадаўства пры правядзенні рэферэндума яго вынікі не прызнаны еўрапейскай супольнасцю.

ДАЙДЖЕСТ

## Госпитализирована вдова Оскара Шиндлера



94-летняя Эмилия Шиндлер, вдова германского промышленника Оскара Шиндлера, госпитализирована в критическом состоянии. О характере ее болезни известно только то, что недуг касается внутренних органов.

Эмилия Шиндлер помогла своему мужу Оскару спасти жизни сотен евреев во время Второй мировой войны. В 90-е годы эта история стала сюжетом фильма "Список Шиндлера", который завоевал Оскара. В 1949 году они с мужем переехали в Аргентину. В этой стране Эмилия Шиндлер дожила до старости. Некоторое время назад Эмилия переехала в Adalbert Founder Home в Вальдкайбурге, Бавария, чтобы "умереть на родине". Оскар Шиндлер, вернувшийся в Германию в 1958, умер в 1974 году и, согласно завещанию, был похоронен в Иерусалиме.

**На снимке: Эмилия Шиндлер: раньше и сейчас.**

## Кучма покончил с двоевластием в Крыму

Президент Украины Леонид Кучма дал согласие на отставку премьер-министра Республики Крым Сергея Куницына. По словам пресс-секретаря президента Александра Мартыненко, Леонид Кучма руководствовался стремлением создать нормальные условия для работы крымского правительства и парламента.

Решение об отставке Куницына было принято крымским парламентом 18 июля. На смену демократически настроенному премьеру Куницыну, русскому по национальности, был избран крымский татарин, коммунист Лентун Безазиев. Однако позже бывший глава правительства Крыма объявил, что его отставка незаконна, так как до сих пор нет письменного согласия президента Украины Леонида Кучмы на реорганизацию кабинета министров полуострова.

Напомним, что парламент Крыма, который возглавляет коммунист Леонид Грач, пытался сместить Сергея Куницына 10 февраля и 24 мая 2000 года, однако всякий раз ему в этом резко отказывал президент Украины.

**РИА "Новости".**

## Новые обвинения против Павла Лазаренко

В США выдвинуты новые обвинения против бывшего премьер-министра Украины Павла Лазаренко. Представители прокуратуры утверждают, что он незаконным путем перевел на счета в американских банках около $100 млн. По данным обвинителей, Лазаренко перевел в Америку более $320 млн. Все эти деньги, как считает прокуратура, были украдены из бюджета страны и переправлены в Штаты через счета подставных фирм, зарегистрированных в Швейцарии и Антигуа. Сейчас Лазаренко находится в одной из калифорнийских тюрем.

Он ожидает вынесения приговора по ранее выдвинутым обвинениям. Американцы считают, что бывший премьер-министр виновен в отмывании денег, коррупции и мошенничестве. Если суд сочтет, что прокуратура права, бывший премьер-министр может провести в тюрьме несколько десятков лет. Ему предъявлено уже 53 обвинения, и по некоторым из них предусмотрены наказания в 20 лет лишения свободы. Суд может также решить оштрафовать Лазаренко на $500 тыс. или на сумму, вдвое превышающую количество незаконно переведенных в США средств.

## У побережья Пакистана утонули 19 членов одной семьи

В результате крушения пассажирского судна в Аравийском море погибли, по крайней мере, 19 человек, двух женщин удалось спасти. Все находившиеся на борту пассажиры были родственниками. Инцидент произошел в воскресенье вечером у пакистанского побережья недалеко от города Карачи.

По словам полиции, часть членов семьи из Хайдерабада приехала навестить своих родственников в Ландхи. В воскресенье они все вместе арендовали судно для морской прогулки. Спустя некоторое время оно перевернулось.

## Поддельного Эдди Мерфи поймали в Лос-Анджелесе

В Лос-Анджелесе был пойман человек, который ранее бежал из местной тюрьмы, "притворившись" Эдди Мерфи. Кевин Джером Пуллам, осужденный за попытку убийства, смог спокойно покинуть здание тюрьмы, показав охране поддельное удостоверение. В документе была вклеена фотография известного актера Эдди Мерфи, вырезанная из журнала с рекламой фильма "Доктор Дулитл 2".

В понедельник патрульный полицейский заметил Пуллама, прогуливавшегося в одном из окраинных районов Лос-Анджелеса, и смог задержать его.

**"Би-Би-Си".**

## В Индонезии сменился президент

Президент Индонезии отправлен в отставку. Парламент страны на заседании 23 июля объявил ему импичмент, поддержанный абсолютным большинством голосов. Главой государства стала Мегавати Сукарнопутри. Она уже приняла присягу.

До сегодняшего дня Мегавати Сукарнопутри занимала пост вице-президента. Мегавати возглавляет крупнейшую в Индонезии политическую партию. Она — дочь бывшего президента страны Сукарно, который в 1966 году был отстранен от власти в результате массовых волнений. Его сменил диктатор Сухарто, правивший Индонезией до 1998 года.

Юридическим основанием для отстранения президента от власти стало решение Вахида о роспуске парламента и введении чрезвычайного положения. Президент, по его словам, объявил "священную войну" обеим палатам парламента.

**"Рейтер".**

## В Париже арестованы продавцы обогащенного урана

Французская полиция арестовала в Париже троих человек, которых подозревают в попытке совершить сделку по продаже обогащенного урана-235. Это вещество может быть использовано для создания ядерного оружия. Один из задержанных — француз Серж Сальфати, недавно выпущенный из тюрьмы после отбытия срока за мошенничество. Полиция следила за ним на протяжении прошлой недели и обнаружила микроавтобус, излучавший радиацию. Внутри был найден свинцовый контейнер с пятиграммовой порцией урана-235, запаянного в стеклянную капсулу. Вместе с Сальфати были задержаны два камерунца — Ив Эквелла и Раймонд Лоб.

В полиции считают, что задержанные хранили капсулу как образец для потенциального покупателя. Изъятый уран изучается французской комиссией по атомной энергии. Специалисты пытаются установить происхождение урана. По утверждению эксперта, которое приводится в статье "Le Journal du Dimanche", для изготовления атомной бомбы необходимо около 10 килограммов такого урана, то есть в 2000 раз больше, чем было обнаружено у продавцов.

**"Ассошиэйтед Пресс".**

СМЕХАТУРА

# Забаранілі... сонца



Зірніце на гэты малюнак. Расчыненыя дзверцы, а за імі краявід нібы з дзіцячай песенкі ("Пусть всегда будет солнце", напрыклад, ці "Оранжевое солнце"). Праз мяккую травічку — дарожка, якая цягнецца кудысьці за далягляд, да сонейка. Увогуле, няхітрая карцінка робіць ураажанне нечага цёплага, светлага і, прынамсі, палітычна бяскрыўднага. Тым не менш кіраўніцтва сталічнага метрапалітэну забараніла змяшчаць гэтую сонечную выяву ў вагонах метро на правах рэкламы.

Стылізаванае сонца з'яўляецца эмблемай кампаніі "Выбірай", нядаўна распачатай у Беларусі. Гэтая кампанія, як тлумачаць яе ініцыятары, не мае на мэце агітаваць "за" або "супраць" якога-небудзь кандыдата ў прэзідэнты. Яе характар — чыста мабілізацыйны: каб людзі (найперш моладзь) прыйшлі на прэзідэнцкія выбары. Але і такая дзейнасць выклікае насцярожанае стаўленне ўладаў — відаць, па прынцыпу "Хто не з намі — той супраць нас": калі не агітуюць за Лукашэнку — значыць, гэта нашыя супраціўнікі.

Што ж датычыцца сонейка, дык на плакаце, які меркавалася змясціць у метро, нават слова "Выбірай" не было. Афіцыйнага адказу, зрэшты, не было таксама — метрапалітэн адмовіўся размяшчаць гэткую рэкламу дый усё, без ніякай матывацыі. "Метрапалітэнаўцы проста перастрахоўваюцца: а раптам іхняму начальству нешта не спадабаецца і яно запатрабуе ад іх тлумачэнняў", — сведчыць Сяргей Мацкевіч, каардынатар ініцыятыўнай групы кампаніі "Выбірай".

Гэты прыватны эпізод з'яўляецца досыць паказальным, бо красамоўна характарызуе лад жыцця ў нашай дзяржаве: схільнасць заўважаць нейкую крамолу літаральна ва ўсім — вядомая рыса таталітарных рэжымаў. Аднак няўжо нашыя начальнічкі-правадырчыкі не разумеюць, у якое смешнае становішча самі сябе заганяюць. Сітуацыя ж сапраўды анекдатычная: у лукашэнкаўскай Беларусі пад забаронаю апынулася нават сонца.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ.**

ЭВРИКА!

## Загорелые мамы реже рожают шизофреников

Австралийские ученые утверждают, что развитие шизофрении провоцируется недостатком солнечного света в период беременности. Если на кожу будущей матери падает мало света, в ней образуется мало витамина D. Именно этим ученые объясняют повышенный риск нарушений психики. Об этом свидетельствует ежегодный подъем рождаемости детей, которые заболеют шизофренией.

## Хирурги взяли на операцию не ту женщину

Индийские врачи по ошибке забрали в операционную не ту пациентку. Они уже начали хирургическое вмешательство, когда обнаружили, что допустили ошибку. Причиной произошедшего стало то, что у двух женщин в одном отделении были одинаковы имена. Совпадал и их возраст.

## Создан аэрозоль для лечения предменструального синдрома

Американские ученые создали лекарство, способное быстро устранять недомогание у женщин, страдающих предменструальным синдромом. Это аэрозоль для носа, содержащий феромоны — вещества, играющие большую роль в половом поведении. Вдыхание одной дозы лекарства способно на несколько часов улучшить настроение и уменьшить боли в молочных железах.

ВІЛЬНЮС



*Торговец сувенирами. Вільнюс. Літва.*

Фото IREX/ProMedia.

ЛЮБОПЫТНО

# Вероятность заболевания раком у городского населения Ирландии значительно выше, чем у сельского

Вот так всегда. Обязательно кому-нибудь должно быть хуже. Даже в Ирландии, где по состоянию экологии хуже в плане здоровья, казалось бы, не должно быть никому. И тем не менее вероятность заболевания городских жителей раком здесь на 15 процентов выше, чем у сельских. В городе гораздо больше курят и несравненно больше вдыхают дыма от сигарет, которые раскуривают рядом с тобой другие.

Об этом стало известно из доклада, опубликованного в Дублине Национальным бюро регистрации онкологических заболеваний. Доклад был представлен журналистам ирландским министром здравоохранения и по вопросам охраны детства Майклом Мартином. Каждому третьему ирландцу, говорится в докладе, к 74-летнему возрасту угрожает опасность заболевания раком.

Из доклада, первого подобного документа в истории ирландского здравоохранения, видно, что вероятность заболевания раком в городах по сравнению с сельской местностью выше на 10 процентов среди женщин и на 15 процентов — среди мужчин. Это расхождение возвращает нас к проблеме курения. Современные дамы в крупных городских центрах имеют на 77 процентов больше шансов заболеть раком легких, чем женщины, живущие на фермах и в небольших городках, что здесь примерно одно и то же. Среди мужчин эта цифра составляет 68 процентов. И прежде всего, отмечают авторы доклада, это касается людей из семей с невысоким уровнем материального достатка.

Курят ирландцы действительно много. Когда на остановке у Университетского колледжа в Дублине из автобуса вываливается очередная ватага одетых примерно одинаково мальчиков и девочек с хорошими лицами и умными глазами, все они, ощутив землю под ногами, тут же как один закуривают и только тогда устремляются к университету. Прежде всего для них ежегодно в Ирландии проводится широко рекламируемый День отказа от курения, и многие, как утверждают местные газеты, каждый раз решают бросить, но только до следующего дня...

Опубликованные Национальным бюро данные свидетельствуют, что вероятность заболевания раком в Ирландии существенно превышает средние показатели по странам Европейского союза. Так, например, женщины в Ирландии подвержены заболеванию раком пищевода как ни в одной другой стране Европы. В Ирландской Республике степень вероятности возникновения рака пищевода составляет 6,1 на 100 тысяч женщин против 2,2 в ЕС, а среди мужчин — 11,7 против в среднем 9,5 в ЕС.

Печальная судьба заболеть раком к 74-летнему возрасту ждет каждого третьего ирландца. Если исключить редко оканчивающийся летальным исходом рак кожи (если это не меланома), — то каждого четвертого. По статистике, приводимой авторами доклада, к этому возрасту в Ирландии умирает от рака каждая восьмая женщина и каждый шестой мужчина. Перед ирландской медициной, судя по многочисленным публикациям в печати, стоит множество непростых проблем, и эта в их ряду наверняка не последняя.

**Марк ЭНДЕР.**

ДАЖЫЛІСЯ

# Зноў нам боўтацца ў начоўках?

Са школьнай парты ўрэзаўся ў памяць верш Кандрата Крапівы "Будуйце лазні!", напісаны яшчэ ў 1923 годзе. Пачынаецца ён так:

*Беларусь па вушы гразне,*
*Але ў вёсках Беларусі*
*Днём з агнём ніводнай лазні*
*Не знайшоў бы нават, мусіць.*
*Ад Барысава да Слуцка*
*(Аж прызнацца нейк нялоўка)*
*Усе прывыклі не па-людску*
*Сяк-так боўтацца ў начоўках.*

Чытач можа запярэчыць: што калісьці было, тое быллём парасло, ці варта ўспамінаць мінулае? Ды яно само пра сябе нагадвае. У апошнія гады калгасы і саўгасы ледзь зводзяць канцы з канцамі, сродкаў не хапае на гаручае, мінеральныя тукі, зарплату. Хіба да лазняў тут? У многіх, нават шматнаселеных вёсках лазні, якія апальваліся саляркай, пазакрываліся. Дзе-нідзе іх "пераарыентавалі" на дровы, і правільна зрабілі. А ў большасці мясцін рукой махнулі: "як-небудзь абыйдземся".

Сіндром высмеяных Крапівой начовак за семдзесят з лішкам гадоў так і не знік канчаткова. У гэтым я пераканаўся, сустрэўшы неяк пенсіянера з вёскі Сярагі, яна ў васьмі кіламетрах ад горада. Сустрэліся ў слуцкай лазні: вясковая даўно на замку. Нават каб дровы з лесу вывезлі, трэба дэфіцытная салярка, а яе вечна не хапае на сяўбу ды ўборку. Некаторыя вяскоўцы пабудавалі свае лазні, але большасць мыецца, як і ў далёкія 20-я гады, у начоўках. У вёсцы ж пад тысячу жыхароў.

На наступны дзень званю старшыні сельсавета, расказваю пра размову з яго земляком. Аказалася, бяда не толькі з палівам. Старшыня калгаса выдзяляў будаўнікоў, тыя ўсё ў лазні адладзілі чын па чыну — толькі прыходзь і парся, бясплатна. Ды вясковыя хапугі пакінулі ад лазні голыя сцены, усё начыннe павыдзіралі і вынеслі. Пэўна, гразь не толькі да скуры — да душы прыліпла.

І каб жа гэта быў адзіны такі факт. У самым буйным у раёне, калісьці праслаўленым калгасе "1 Мая" яшчэ пры былым старшыні Васілю Паўлавічу Козелу лазні былі ва ўсіх буйных вёсках. Нават у бліжэйшай ад горада — Навадворцы. Цяпер жа пайшлі мяняцца адзін за адным кіраўнікі, гаспадарка заняпала, і сіндром "начовак" вярнуўся і сюды.

Іх ролю летам не без поспеху выконвае Случ. А вось наступяць халады... Старая байка Крапівы зноў загучыць, бы апаратыўны рэпартаж аб санітарным стане нашай вёскі.

**Міхась ТЫЧЫНА.**
**г.Слуцк.**

# Затрымалі пяць чалавек

У цэнтры Жабінкі адбыўся перфоманс, а галоўным удзельнікам яго стаў чалавек, на галаве якога красаваліся апранутыя адна на адну фашыстоўская каска і хакейны шлем. Абавязковым атрыбутам зачасціўшага ў апошні час па гарадах і мястэчках Беларусі вусата-лысага хакеіста была клюшка. Асаблівасцю мясцовага падвіду мазаічнага хакеіста быў каровін хвост.

Гэты чалавек бегаў па рынку і прыставаў да людзей. Камусьці ён абяцаў 500 долараў сумніўнай якасці, кагосьці абяцаў "пeратрахнуць", і ўсё таму, што яму вельмі хацелася яшчэ пяць гадоў гойсаць з клюшкаю.

Гэта выклікала моцны смех усіх прысутных, а вусаты, зразумеўшы, што вялікай любові ў Жабінцы не пабачыць, пацягнуўся да выхаду ў суправаджэнні санітараў, якія ўвесь час пільна сачылі за яго ўчынкамі. І каб кампенсаваць дозу хлусні, хадзілі за ім і раздавалі газеты "Зубр" і "Наша Свабода".

Падчас акцыі былі затрыманы пяць чалавек.

**Алесь БЕРКУТ.**

